


Юрачка з Новаберазова.

Фота Я. Чэрнякевіч.

№ 23 (1139) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 10.VI.1979 г.

К. Кірэенка

# Бабуліны пірагі

Ужо некалькі дзён у доме не змаўкаюць смех і беганіна. Дзеці адзін перад другім збіраюцца да бабулі ў госці.

— Мама, а на чым паедзем?

— На аўтобусе, дзеткі.

— Ура! Ура! Я ж казаў, што на аўтобусе!

— А калі?

— Самі ўбачыце.

— А хто сустракаць нас будзе?

— Галя, Таня.

— А бабуля?

— А бабуля будзе пячы пірагі.

Алеська любіць пірагі з тварагом ці з яблыкамі. Асабліва пірагі бабуліны. Высокія, пышныя ды такія духмяныя, што, здаецца, адным пахам наесціся можна. Бабуля ведае гэта і заўсёды пячэ свае пірагі, калі прыязджаюць унукі.

Вось настаў дзень ад'езду. Таткі на той час не было дома, у далёкую камандзіроўку паслалі. З сабою ён узяў і Мішу — старэйшага брацікa Алеся.

Раніца выдалася хмурная: заімжыў дождж. Алесю хоць плач. І такія прыгожыя сандалецікі ў яго ёсць, а іх на дождж не абуеш. І матроска новенькая з якарам і гузікамі блішчастымі, — але хто яе ўбачыць, калі нават і надзенеш? Мама ж загадала паліто апрануць...

Глядзіць Алеська ў акно; мо, хоць на хвілінку сонейка выгляне? Але дзе там. Нават вокны пачалі плакаць — цякуць крапелькі, бягуць па шыбах. Ну, якраз як у Алеся па твары. „Аленцы што, — думае Алесь. — У яе заўсёды відны прыгожыя стужкі ў косках. Хоць і шапачку на галаву нацягне, а ўсё роўна коскі на паліто вылазяць... А калі папрасіць маму не ехаць зараз? Пачакаць, пакуль сонца выгляне?.."

Маці ведае, чаму сумуе Алесь. Хіба ж яна не бачыла, колькі было радасці ў сына, калі тата прывёз яму марацкі касцюм?

— Алеська, — кажа мама, — чаго ж ты сядзіш, сынок? Хутчэй надзявай касцюм новы. Хутчэй, бо на аўтобус спознімся. Надзявай, надзявай. І сандалецікі абувай. Ого, які ты будзеш прыгажун! Бабуля і не пазнае!

— А там жа мокра, дождж. Нікога няма на вуліцы.

— Пакуль ты збярэшся, дык і падсохне. Гэта сонейка проста заспалася сёння. Хмурынкі разагнаць не паспела. А вунь глядзі, ужо і святлець пачынае.

Алесь кінуўся да шафы. Хутчэй касцюм! Хутчэй сандалецікі! Хутчэй адзецца ў новае!

Пакуль усё сабраў — і праўда, пасвятлела. От добра!

Нацягвае Алесь касцюм новы і песеньку сам сабе спявае.

Сонейка, сонейка,
Засвяці ў акенца.
Дам табе напіцца
Вадзіцы ў жменьцы.

Сонца як быццам пачула песеньку. Рассунула хмары па баках, глядзіць на зямлю. Праўда, часам яно выглядае як заспанае ці хворае. І хмурынкі не-не ды і набягуць на яго. Але пакуль да аўтобуса ішлі, ніводная крopля не ўпала, зямля на вачах падсыхала.

Селі ў аўтобус, а Алеся на адным месцы не ўтрымаць.

— Ды сядзі ты па-людску,

Алеська, — дакарае мама. — Чым ты незадаволены?..

Ён усім задаволены. Толькі вось аўтобус, яму здаецца, едзе марудна. Хутчэй бы даехаць да бабулі!

Аўтобус, аднак, бяжыць па магістралі весела. Мільгаюць бярозкі, таполі, дубы. Праехалі мост, сасновы барок, азярынку мінавалі. І вось ён, паварот да вёскі.

— Мама, як ты думаеш, а пірагоў многа будзе? — пытае Алесь.

— Многа, сынок, — адказвае мама і задумваецца аб нечым сваім.

— А вунь вёска! — крычыць Аленка.

Вёска паказалася не з таго боку, дзе сядзеў Алеська.



— Пусціце мяне, пусціце мяне! — просіць ён і прыліпае шчакою да шыбы.

Вунь белы дом — праўленне. Вунь клуб, абсаджаны таполямі. Вунь за клубам і хата бабулі.

— Алеська, вось твой партфельчык, — кажа Аленка. — Уставай, выходзім!

Калі выйшлі з аўтобуса, Аленка першая ўбачыла бабулю, якая, на хаду падвязваючы хустку, спяшала да аўтобуса.

— Алеська, вунь бабуля! — закрычала Аленка. — Бяжы хутчэй! Даставай з партфельчыка падарункі!..

Алеська таксама ўбачыў бабулю. Але што з ім стала? Усю дарогу столькі радасці было, што едзе да бабулі, а тут раптам — быццам яго падмянілі: спыніўся, набычыўся, галаву апусціў і ні з месца...

— І што з табою, сынок, робіцца... — уздыхае мама.

— А пірагі бабуля не пячэ... А як без пірагоў... — ледзь не плача Алесь.

— А-а... Дык вось яно што... — смяецца мама. — Бяжы ж пацалуй бабулю. Будуць твае пірагі...

Пацалавалася бабуля з унукамі, ідзе побач і ўсё прыгаварвае:

— От добра, дзеткі, што прыехалі. От добра. Вы ж як напісалі, што прыедзеце, дык я так узрадавалася. А дзе ж Міхасёк?

— А ён з татам паехаў. А вам паклон перадае. Бабуля, а ці пазналі вы нашага Алеську?

— Алеську? А няўжо ж гэта ён?

Алеська ўсміхаецца.

— Я гэта, бабуля, я... Я мараком буду. І ў мяне марацкі касцюм. Тата мне купіў. І якар залаты ёсць... Во, паглядзіце, бабуля...

Бабуля пляскае рукамі:

— Авоечкі, і праўда ж, сапраўды якар!

У гэты час усе падыходзяць да бабулінай хаты. З адчыненых дзвярэй і вокнаў насустрач чуецца такі прыемны і такі незабыўны пах смачных бабуліных пірагоў.

— Дзякуй, бабулька! — кінуўся Алесь на шыю бабулі. — Я ведаў, бабулька, — горача казаў ён. — Я ведаў, што так будзе.

Язэп Пушча

## ПЕСНЯ ЛЕТА

*Ўсе аблогі ўзораны.
Чырванее ўзорамі
Сонца перад зорамі;
Вербы над азёрамі,
Ой, шумяць зялёныя
З маладымі клёнамі.*

*Росы ўлетку чыстыя,
Птушкі галасістыя,
Нівы каласістыя;
Васількі блакітныя
І кусты ракітныя
Ветліва ўсміхаюцца,
Вечарам і раніцай
Росамі ўмываюцца.*

*Песня салаўіная,
Даль блакітна-сіняя,
З лёгкаю хмурынкаю,
З сонечнай іскрынкаю.*

*Цешымся, любуемся,
Горача цалуемся
З роднымі бярозамі,
Да чаго ж прыгожымі!*

## ЯК ДОБРА!

*Люблю вясну, і лета,
І сонца на пайдні...
Як добра быць паэтам
Ў такія нашы дні!*

*Устаць вясёлым ранкам
І ў светлы цэх ісці,
Не ў залачоных рамках
Пець песні, а ў жыцці.*



*Хай льюцца песень трэлі
Ад сэрца, ад душы.
Яны людзей сагрэлі,
Не буду іх тушыць.*

*Прыйшоў мой дзень
уцешны,
Настроі паплылі,
З людзьмі спяваю песні
На сонечнай зямлі.*

*Мне кожны дзень працоўны
Прыносіць шмат уцех,
І ўвечар часам зорны
У свой заходжу цэх.*

*У палымяным сэрцы
Гуртую слоў лады.
Бывае верш збярэцца
Гарачы, малады,*

*Як тая песня лета,
Як сонца на пайдні.
Знаць, добра быць паэтам
Ў такія нашы дні.*

**А. Міхалевіч**

* ⁂ *

*Летнія канікулы —*
*Які жаданы час!*
*Мяне ў сяло паклікалі*
*Ужо не першы раз.*

*Туды ляцеў, прызнацца вам,*
*Купацца, загараць.*
*Цяпер падрос —*
*Ды бачу сам —*
*Магу дапамагаць...*

*З сябрамі з песняй крочу я*
*Штодзень на сенажаць.*
*А сена пlivarочаем —*
*Пара адпачываць.*

*Глядзець на хмаркі ў роздуме*
*Ці распластацца ніц —*
*Хай сонца яркай бронзаю*
*Спяшаецца абліць...*

*Шчаслівы я і радасны,*
*У думках — мары ўзлёт.*
*Вось мускулы пакратайце:*
*Ў іх сілы на ўвесь год!*



**Віталі Вольскі**

# Заморскі госць

**(Пачатак у папярэднім нумары)**

Калі я пачуў ад Язэпа і яго дзяцей пра невядомага звярка, у мяне з'явілася пэўная здагадка, тым больш, што я ведаў сёе-тое, чаго не ведалі мае знаёмыя і што магло мець некаторае дачыненне да падзей на двары. Але здагадку неабходна было праверыць. Таму я нічога не сказаў і пайшоў аглядаць навакольную мясцовасць.

Хата Язэпа Хведашчэні была ў вёсцы самай крайняй. Адразу за сядзібай пачынаўся лес. Пад самы двор падступалі старыя дубы і ліпы.

Увесь бліжэйшы ўзгорак за хатай быў пакрыты змешаным лесам. Тут раслі бярозы, сосны, асіны, рабіны, арэшнік, але пераважалі дубы — старыя, дуплаватыя, разгалістыя. Далей за лясістым узгоркам, „востравам", як тут кажуць, цягнулася балота.

Я знаёміўся з наваколлем, звяртаючы асаблівую ўвагу на старыя дрэвы. Так усё, як я і думаў!

Мясцовасць вельмі падыходзіла для звярка, які наведаў двор Язэпа.

Цяпер заставалася толькі ўбачыць яго самога і пераканацца ў правільнасці маёй здагадкі.

Познім вечарам, свежым, але сухім, я пайшоў на тое месца, якое выбраў напярэдадні для свайго назіральнага пункта. Гэта быў высокі ўзгорак, на якім раслі купаю старыя дубы. Тут я заняў пазіцыю

*(Працяг на стар. 7)*


# ПАГЛЫБЛЯЙ СВАЕ ВЕДЫ



## ПАД ПАРУСАМ ПРАЗ АКІЯН

Балгарскія даследчыкі Юлія і Донча Папазавы не падобны да звычайных мараплаўцаў. Яны выйшлі ў мора на ратаўнічай лодцы пад парусам, паставіўшы сябе ў сітуацыю пацярпеўшых аварыю карабля. Арыентаваліся па компасе і зорках, карміліся галоўным чынам планктонам. Папазавы вырашылі даказаць, што чалавек можа і павінен выжыць і ў такіх цяжкіх умовах.

Сваё першае падарожжа Юлія і Донча Папазавы зрабілі ў 1972 годзе — за 26 дзён яны пераплылі на лодцы Чорнае мора.

У 1974 годзе яны пераплылі Атлантычны акіян ад Гібралтара да Кубы і расказалі аб гэтым небяспечным падарожжы ў кнізе „Пад парусам праз акіян“. Кніга перакладзена на рускую мову.

У 1976 годзе балгарскія даследчыкі ўжо праплылі новым маршрутам — перасяклі Ціхі акіян. А цяпер яны рыхтуюцца да кругасветнага падарожжа, якое хутка пачнецца ля Гібралтара і закончыцца ў 1981 годзе на мысе Добрай Надзеі.

## ЧАМУ ВАДА Ў МОРЫ САЛЁНАЯ?

У далёкія часы, прыблізна чатыры мільярды гадоў таму назад, вада выціскалася з глыбінь зямлі, з манціі. Рэчыва манціі існуе і ў цвёрдым, крышталічным стане, і ў расплаўленым. Вада знаходзіцца ў расплаўленай частцы манціі і запаўняе месца паміж крышталамі цвёрдай манціі. На паверхню вада выходзіла ўжо салёнай. Солі раствараліся ў ёй, пакуль вада па шчылінах і разломах зямной кары выходзіла на паверхню планеты.

Значыць, спачатку паявілася салёная вада мораў і акіянаў, а ўжо потым, выпараючы, яна трапляла ў атмасферу, збіралася ў хмары і падала на зямлю прэсным даждждом або снегам. Так нараджаліся рэкі, азёры, ледавікі.

Пяцьсот мільёнаў гадоў назад акіян быў ужо такі салёны, як цяпер.

Вучоныя і цяпер могуць даследаваць тую ваду, што выдабываецца з глыбінь Зямлі. На Камчатцы, у Ісландыі, у Паўночнай Амерыцы і іншых месцах планеты, дзе ёсць вулканы, вада б'е гарачымі фантанамі. Гэта гейзеры. Вада ў гейзерах салёная і вельмі блізкая па складу да вады з мораў і акіянаў.



(Працяг са стар. 5)

# Заморскі госць

з такім разлікам, каб гэтыя дрэвы знаходзіліся цалкам у полі майго зроку.

Я ўзяў з сабою электрычны ліхтарык, але патрэбы ў ім пакуль што не было. Хутка з'явіўся на цёмным небе поўны месяц і асвятліў невялікую лугавінку, дубы, кусты арэшніку і бераг ручая, за якім пачыналася балота.

Трэба набрацца цярплівасці, чакаць і не варушыцца.

Вакол пануе непарушны спакой. Пахне скошанай травой. Знізу ад балота, цягне вільгаццю. Паблісквае цёмная, пасярэбраная месяцам вада. Чорныя сілуэты магутных дрэў вылучаюцца ў таямнічым святле месяца. Ціха дрэмлюць красуні бярозы, асілкі-дубы. Ні гуку не чуваць на гэтым лясістым узвышшы сярод бясконцай балоцістай нізіны.

Мінула гадзіна, а можа і болей.

У густым лісці аднаго з дубоў нешта злёгку зашамацела. Штосьці цёмнае аддзялілася ад кучаравай кроны. Вось яно мільганула на тоўстым суку, набыўшы абрысы жывой істоты. Бліснулі ў святле месяца жывыя вочкі на цёмнай, вострай мордачцы.

Звярок спусціўся з дрэва, чапляючыся лапкамі за тоўстую кару ствала, знік у чорным цені, які ляжыўся ад дуба на зямлю, але адразу з'явіўся зноў і пайшоў па вільготнай траве ўніз ручая.

Ён ішоў павольна, апусціўшы галаву і хвост. Але вось нешта прыцягнула яго ўвагу. Ён увесь падабраўся, вушы яго натапырыліся, рухі зрабіліся лёгкімі і спрытнымі. На хвіліну ён спыніўся і ўзняў галаву, прынюхваючыся да паветра.

Падыйшоўшы да вады, звярок уважліва агледзеў бераг. Пачуўся лёгкі ўсплёск. Пярэднія лапкі звярок апусціў у ваду. Там ён схапіў, нібы рукамі, ракавінку, раскрыў яе створкі, выцягнуў малюска, агледзеў яго, папаласкаў у вадзе і толькі тады з'еў.

Усё зразумела. Сумненняў быць не можа. Здагадка пацвердзілася. Гэта — амерыканскі янот, далёкі заморскі госць. Ніхто іншы, як ён. Нездарма называюць яго яшчэ і паласкуном, бо мае дзіўную звычку мыць і паласкаць сваю здабычу, перш чым яе з'есці.

Сэрца маё моцна закалацілася. Я з цяжкасцю суняў хваляванне. Нарэшце давялося мне ўбачыць у лесе янота, і не дзе-небудзь у даліне Місісіпі, сярод зараснікоў ліян, а ў нас!

Цяпер я смела магу сказаць Язэпу і яго дзецям, хто іх начны госць.

## Пазнаёмімся

Аня Галёнка, вучаніца шостага класа, вёска Сакі 14, пошта 17-105 Пасынкі, Беластоцкае ваяводства.

Аз. ССР, 373208 г. Сумгаит, 8 м/н, д. 10, кв. 75. Кизоговой Анжеле, вуч. восьмага класа.

* * *

Аз. ССР, г. Баку, пос. Хурдалан, 27 квартал, дом 17б, кв. 59. Гаманюк Лене. Дзяўчынка вучыцца ў пятым класе.

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Эдзі Агняцвет

## БЕДНЫ САЎКА

Скача Саўка і дурэе.
Папрасі прыбраць пакой, —
Ён адразу захварэе,
Стане хлопец сам не свой:

— У мяне тэмпература! —
І збляднее ўсім на страх.
— Ах, парэпалася скура
На руках і на нагах!

Шыю хустачкай абвяжа:
— Ой, баліць, баліць, памру!
— Паляжы, — сястрычка кажа, —
Я сама тут прыбяру.

Вось у хаце — ні пылінкі.
Як бычок, ён зноў здароў.
З хлопцам скачуць крэслы, скрынкі.
І не трэба дактароў.

— Прынясі, сынок, на вечар
Дзве бутэлькі малака.
І сагне ён раптам плечы,
Не пазнаеш хлапчука!

— Тры з паловаю гадзіны
Я вылічваў, я чытаў.
Я — заняты, я — мужчына.
У мяне хапае спраў.

— Я пайду! — крычыць сястрыца, —
Хай наш Саўка адпачне.

Ты, сястрыца-працаўніца,
Адкажы сабе і мне:
— Можа, Саўку да работы
Не пускаюць дзве ляноты?
Так ці не?

* * *

— Ці ў вас споўніліся хоць некаторыя жаданні з дзіцячых гадоў?

— Так. Адно. Калі мама мне мыла галаву, дык я заўсёды марыў аб тым, каб хутчэй у мяне не было валасоў...

* * *

— Ці ты ўжо лётаў на самалёце?
— Так.
— А баяўся?
— Толькі першы раз.
— А потым?
— Потым ужо не лётаў.

* * *

— Вы кажаце, што да гасцініцы трэба ісці яшчэ тры гадзіны? На маёй карце паказана, што толькі два кіламетры! — гаворыць турыст да мясцовага дзядзькі.

— Калі так, дык ідзіце па вашай карце, — спакойна адказвае дзядзька.

## АДГАДАНКА



**Як пчолцы дабрацца да кветачкі?**

Адрас рэдакцыі: „Зорка“, 15-950 **Białystok, ul. Wesołowskiego 1.**